

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№3 (185) ЛЮТЫ 2015 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## АБЫ НЕ БЫЛО ВАЙНЫ

**Нягледзячы на ўвесь афіцыёзны аптымізм, эканамічны крызіс стаў, здаецца галоўным чыннікам эканамічнага жыцця на Беларусі. Ці адчула грамадзтва, што яно жыве ва ўмовах крызісу?**

У цікавай краіне давялося нам з вамі нарадзіцца і жыць. Ні табе тут мораў, ні рэкаў тыпу Амазонкі, ні вулканаў, ні пустыняў, ні Андаў, ці якіх там хаця б Альпаў, ні засухі, ні залевы…Здавалася б – жыві і радуйся жыццю. Вайны няма, землятрусы і вулканы спяць, а інфляцыя такая, як і ў суседняй Украіне, якая ваюее. На многіх беларускіх прадпрыемствах узнiклі проблемы с выплатай заробку і загружанасці складоў, многія заводы пераходзяць на чатырохдзёнку, людзей усё часцей звальняюць. Амаль палова краіны незадаволеных работнікаў: людзі пашуць, пашуць, а радасцю іх твары не свецяцца – грошай, бадай,толькі на гарэлку ды камуналку хапае ды яшчэ дзяўчатам на 8-е сакавіка кветак купіць.

Затое дваццаць гадоў афіцыйныя баюны ўсё баюць і баюць свае пабасенкі пра падвышэнне дабрабыту і сярэдняга заробка. Але ж пасля гэтых абяцанкаў становіцца толькі горш: і каб не адкідвалі нулі пасьля кожнай дэвальвацыі на тутэйшых тугрыках, то ўсе наўкола былі б міліярдэрамі, а то і трыльяньерамі( і не выгаварыш нават!). А зараз ужо нешта і не верыцца ў лепшае заўтра: намінальны сярэдні заробак па краіне за студзень месяц скалаў 6,023 млн. і зменшыўся ў параўнанні са снежнем на 11,5%, ці на 782,8 тыс. рублёў. Пра гэта паведаміў Нацыянальны статыстычны камітэт. Рэальны ж заробак, разлічаны з улікам росту спажывецкіх цэнаў на тавары і паслугі, у студзені ў параўнанні з студзенем 2014 года зменшыўся на 3,5 адсоткі, а студзенскі ў параўнанні з са снежаньскім – на 13,6%. У доларавым эквіваленце ў студзені 2014 года сярэдняя зарплата работнікаў Беларусі складала амаль 552 даляраў, у студзені 2015 года – 391 даляр. Такім чынам, за год сярэдняя зарплата беларусаў скарацілася на 161 даляр.

Усё часцей завітвае да нас і такая дзіўная для тутэйшай эканомікі зьява, як банкрутва: напрыклад, 7 лютага эканамічным судом Віцебскай вобласці ў сувязі з заявай пра банкруцтва на Віцебскае ААТ «КІМ» прызначаны часовы кіраўнічы. У дзяржавы катастрафічна не хапае грошай, па ацэнках спецыялістаў на сёлетні год дзеля больш-менш стабільнага існавання трэба адшукаць сем мільярдаў даляраў. Толькі абслугоўванне знешняга доўгу ў 2015 годзе запатрабуе больш за 4 мільярды даляраў. Андрэй Карпунін, старшыня Клуба фінансавых дырэктараў, лічыць, што "на рынку працы Беларусі сітуацыя будзе толькі пагаршацца. Беспрацоўе яшчэ не дасягнула свайго максімуму. Колькасць звальненняў вырасла з-за таго, што выраслі стаўкі па крэдытах, адсутнічаюць дзяржзаказы,скараціліся выдаткі бюджэту". Невядомы і лёс тутэйшых прадпрымальнікаў, для якіх 1 сакавіка 2015 года надыходзіць дзень ікс, бо ў гэты дзень заканчваецца тэрмін рэалізацыі беларускімі прыватнымі прадпрымальнікамі астаткаў тавару лёгкай прамысловасці, завезенага ў Беларусь да 1 ліпеня 2014 года, які не мае дакументаў пра іхнюю адпаведнасць тэхнічнаму рэгламенту Таможанага саюза. Здавалася б у гэтых умовах усе мусілі б абяднацца, але адзінства сярод прадпрымальнікаў адсутнічае: кожны сам па сабе. З гэтай нагоды вядомы грамадскі актывіст Ілья Дабратвор, пераасэнсаваўшы вядомую фразу кажа: " калі прыйшлі за ўладальнікамі кіёскаў - я маўчаў («у мяне няма кіёска»), калі прыйшлі за грузаперавозчыкамі - я маўчаў («я ж не грузаперавозчык»), калі прыйшлі за «шмотачнікамі» я маўчаў ("я ж не« шмотачнік») , а потым прыйшлі за мной, але заступацца ўжо не было каму" ... І гэткая ж сістэма паводзінаў існуе не толькі ў асяроддзі прадпрымальнікаў, яна ўласцівая ўсяму тутэйшаму грамадству: кожны думае толькі пра сябе. Але ж незадаволенасць расце і не толькі ў прадпрымальніцкім асяроддзі. А любы бюракратычны рэжым больш за ўсё баіцца, менавіта, аб'яднання ўсіх незадаволеных слаёў грамадства. Калі гэта адбудзецца, рэжым абрынецца. Пакуль жа ўлада ізалюе і нейтралізуе незадаволеных невялікімі партыямі або паасобку ... Не, канечне, можна пераседзець цяжкія часы ў бульбе, але да паляпшэньня дабрабыту і падвышэння ўласнай самаацэнкі гэта не прывядзе.

**Алесь Шумскі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

НАШЫ ЗАРОБКІ

## ЛІДЭР ВОБЛАСЦІ ПА КОЛЬКАСЦІ ДАЎЖНІКОЎ

**Афіцыйныя даныя сведчаць, што ў Шумілінскім раёне налічваецца аж 10 прадпрыемстваў, якія маюць запазычанасць па зарплаце па стане на 1-га лютага 2015 года.**

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў спіс шумілінскіх прадпрыемстваў, якія маюць пратэрмінаваную запазычанась па заработнй плаце сваім работнікаў.

Сярод даўжнікоў:

1. ААТ "Обальскі керамічны завод"
2. ААТ "Лаўжанскае"
3. КУСГП "Сіроцінскі
4. КУСГП "Ульскі"
5. КУСГП "Мішнявічы
6. ААТ "Прыдзвінскі
7. ААТ "Аграбаравінка
8. ААТ "Ляжні
9. ААТ "Прыазёрны мір"
10. КУВП "Шумілінскі райаграсэрвіс"

Варта адзначыць, што упершыню прадпрыемствы-даўжнікі па заробкам былі зафіксаваны ў верасні мінулага года. Тады Сваім работнікам па заробкам завінаваціліся два сельгаспрадпрыемствы: ААТ "Лаўжанскае" і ААТ "Аграбаравінка". У кастрычніку пачаўся рост: у спіс даўжнікоў трапілі ўжо тры прадпрыемствы: ААТ "Обальскі керамічны завод", ААТ "Лаўжанскае", ААТ "Прыазёрны мір".

Усяго па Беларусі запазычанасць маюць 277 арганізацый, з якіх больш паловы – 142 знаходзяцца ў Мінскай вобласці, а 76 – у Віцебскай. Пераважна гэта прадпрыемствы аграрнай галіны, але ёсць і прамысловыя ў тым ліку з Віцебшчыны: ААТ «Оршабудматэрыялы», ААТ «Класіка індустрыі моды» ( Віцебск), ААТ «Обальскі керамічны завод», ААТ «Віцебскі камбінат шоўкавых тканінаў», ААТ «Сцяг індустрыялізацыі» (Віцебск), ААТ «Аршанскі камбінат будаўнічых матэрыялаў », ААТ« Завод «Эвістар» (Віцебск) і іншыя. Сярод сельскіх раёнаў паўночнага края найбольшая колькасць даўжнікоў у Шумілінскім раёне – 10, Сененскім, Віцебскім раёнах па 8.

Апроч таго, Прэс-служба Нацыянальнага статыстычнага камітэта паведаміла аб тым, што фактычна колькасць працаўнікоў, якім у краіне павінны заробак, вырасла ў студзені ў 16 разоў.

Разам з тым за студзень 2015 г пратэрмінаваная запазычанасць на зарплаце вырасла ў 7,74 разы ў параўнанні са снежнем 2014 года і на 1 лютага склала 171 мільярда. рублёў. Пры гэтым запазычанасць па колькасці работнікаў, перад якімі ў працадаўцы мелася запазычанасць, вырасла больш чым у 16 разоў - з 3 тыс. да 49,3 тыс. чалавек.

**Ян Вайтовіч**

КАРУПЦЫЯ

## БЫЛЫ ПРАКУРОР АСУДЖАНЫ

**Віцебскім абласным судом вынесены прыгавор былым пракурору Шумілінскага раёна і яго намесніку. Справа слухалася ў закрытым судовым пасяджэнні.**

Як паведаміла прэс-сакратар Вярхоўнага суда Беларусі Юлія Ляскова, былыя пракурорскія работнікі прызнаныя вінаватымі ў прыняцці службовай асобай, што займае адказнае становішча, для сябе матэрыяльных каштоўнасцяў, перададзеных выключна ў сувязі з яе службовым становішчам, за спрыяльнае вырашэнне пытанняў, што ўваходзяць у яе кампетэнцыю, за выкананне ў інтарэсах хабарадавальніка якога-небудзь дзеяння, якое гэтая асоба магла зрабіць з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў (атрыманне хабару), учыненым групай асоб паводле папярэдняй змовы, у буйным памеры.

На падставе ч. 3 арт. 430 КК судом былому пракурору Шумілінскага раёна Яўгену Гуляеву прызначанае пакаранне ў выглядзе васьмі гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці, пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з праходжаннем службы ў праваахоўных органах і судах, на пяць гадоў. Намесніку раённага пракурора Дзмітрыю Храловічу — у выглядзе сямі гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці, пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з праходжаннем службы ў праваахоўных органах і судах, на пяць гадоў.

На падставе арт. 60 КК абодва пазбаўленыя спецыяльных званняў пракурорскіх работнікаў.

Прыгавор быў абвешчаны 13 лютага. Законную моц не набыў і можа быць абскарджаны і апратэставаны ў Вярхоўны суд праз Віцебскі абласны суд на працягу 10 сутак з дня абвяшчэння, а абвінавачанымі — у той жа тэрмін з дня ўручэння ім копіі прыгавору.

**Наша Ніва**

ІНВЕСТЫЦЫІ

## НОВАБУДОЎЛІ

**На Нацыянальным прававым Інтэрнэт-партале Рэспублікі Беларусь апублікавана Інвестыцыйная праграма Віцебскай вобласці на 2015-2016 гады.**

У 2015-м годзе за кошт сродкаў абласнога бюджэту і іншых крыніц фінансавання, прадугледжаных на капітальнае будаўніцтва планууецца «Рэканструкцыя станцы абезжалезванняўг.п.ОбальШумілінскага раёна".

Праект ажыццяўляецца ў рамках Дзяржаўнай праграмы па водазабеспячэнню і водаадвядзенню "Чыстая вада" на 2011-2015 гады, зацверджанай пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Іншыя новабудоўлі ў 2015 і 2016 годзе ў Шумілінскім раёне не прадугледжаны.

**pravo.by/main.aspx**

ЗДАРЭННІ

# РАБАЎНІК НАПАЎ НА ПЕНСІЯНЕРА

**У 92-гадовага старога каля ўласнага дома невядомы мужчына спрабаваў адабраць 50 тысяч рублёў.**

7 лютага а палове першай гадзіны дня у адносінах да пажылога чалавека быў здзейснены дзёрзкі напад. У міліцыю звярнуўся пенсіянер 1923 года нараджэння з заявай аб ты, што неўсталяваны злачынец каля дома па месцы жыхарства, ужыўшы фізічную сілу, з кішэні курткі спрабаваў адкрыта выкрасці грошы ў суме 50 тыс. рублёў.

Супрацоўнікамі Шумілінскага РАУС папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў рабочы1958 года нараджэння, раней судзімы за рабаванне.

Па факту рабавання заведзена крымінальная справа па ч. 1 арт. 14 і ч. 2 арт. 206 КК.

**Сяржук Горкі**
**па зводках УУС**

СУПРАЦЬПАЖАРНАЯ БЯСПЕКА

# РАЗАМ ДЗЕЛЯ БЯСПЕКІ

**На Шуміліншчыне стартаваў другі этап рэспубліканскай акцыі «Бяспека ў кожны дом!"**
**Пачынаючы з 9 лютага работнікі Шумілінскага РАНС праводзяць інфармацыйна-тлумачальную працу ва ўстановах адукацыі, накіраваную на папярэджанне пажараў і гібелі на іх людзей.**

На днях намеснік начальніка Шумілінскага РАНС ў Іван Маскалькоў сустрэўся з бацькамі Ляжнёўскага дзіцячага садка і вучнямі Мішкавіцкай базавай школы. У сваю чаргу інжынер ДСНС Рыгор Жук сустрэўся з бацькамі і вучнямі Мішневіцкай сярэдняй школы, а спецыяліст ГПіО Ларыса Лінкевіч з бацькамі Амбросавіцкай сярэдняй школы.

Усім прысутным у ходзе сустрэчы былі растлумачаны асноўныя правілы і патрабаванні пажарнай бяспекі ў жылым фондзе. Таксама бацькам і дзецям расказалі аб асноўных прычынах ўзнікнення пажараў, былі прыведзены прыклады гібелі людзей на іх.

Безумоўна, асаблівага ўвагу шумілінскія ратавальнікі засяродзілі на папярэджанні надзвычайных сітуацый з удзелам дзяцей, недапушчальнасці пакідання іх без нагляду. Само сабой, адпаведна ўсе ўдзельнікі мерапрыемства былі папярэджаны аб пастаянным кантролі з боку дарослых за там, як дзеці бавяць час, навучанні асновам бяспекі жыццядзейнасці з самага ранняга ўзросту.

Падчас правядзення акцыі дэманстраваліся відэафільмы і фотаматэрыялы з канкрэтнымі прыкладамі парушэнняў правілаў пажарнай бяспекі ў прыватных домаўладаннях, а таксама іх наступстваў.

На заканчэнне ўдзельнікам акцыі ўручаліся памяткі аб мерах пажарнай бяспекі. На працягу гэтага тыдня акцыя «Бяспека ў кожны дом!" пройдзе ва ўсіх установах адукацыі Шумілінскага раёна.

**У. Амбросаў**

ГРАМАДСКАЕ МЕРКАВАННЕ

# ДАВЕР ДА МІЛІЦЫІ РАСЦЕ, АЛЕ...

**Паводле грамадскага меркавання ў Шумілінскім раёне ўзровень даверу да міліцыі працягвае нязначна павышацца: напрыканцы 2014 года ўзрос з 31,9% да 32,9%.**

Аднак ў Віцебскай вобласці сярэдні ўзровень поўнага даверу насельніцтва да міліцыі ў мінулым годзе знізіўся з 36,2% да 35,5% і дасягнуў ўзроўню 2011 года. Разам з тым варта адзначыць, што на Шуміліншчыне ў 2013 міліцыі давяралі толькі 31,9% апытаных жыхароў - гэты паказчык з'яўляўся самым найменшым сярод іншых раёнаў вобласці.

У 2012 годзе назіралася станоўчая дымаміка: праваахоўным органам Шумілінскага раёна давяралі 39,7% насельніцтва. Затое ў 2011 годзе самы ніжэйшы паказчык у вобласці быў зноў зафіксаваны Шумілінскім раёне, дзе міліцыі давяралі толькі 28,7% жыхароў.

Так, пры зніжэнні сярэдняга рэйтынгу па вобласці праваахоўнікам удалося дасягнуць станоўчай дынамікі ў дзевяці рэгіёнах: у Браслаўскім (з 33,2% да 33,5%), Верхнядзвінскім (з 34,2% да 34,4%), Віцебскім (з 34,7 % да 35,1%), Міёрскім (з 33,3% да 33,8%), Пастаўскім (з 36,4% да 36,5%), Ушацкім (з 37,7% да 37,9%), Шаркаўшчынскім (з 37% да 37,1%), Шумілінскім (31,9% да 32,9%) раёнах і горадзе Наваполацку (з 33,6% да 34,2%).

Адпаведна, у астатніх 13 раёнах і Віцебску ўзровень поўнага даверу альбо знізіўся, альбо, у лепшым выпадку, застаўся на ранейшым узроўні. На жаль, упершыню на сайце УУС Віцебскага аблвыканкама не сталі публікаваць карту з інфаграфіку гэтага паказчыка і дынаміку змены даверу можна адсачыць толькі па станоўчых раёнах.

Ацэньваючы аператыўнасць рэагавання нарадаў міліцыі на паведамленні і заявы аб правапарушэннях, 83,5% апытаных адзначылі высокую аператыўнасць рэагавання міліцыі пры звароце па тэлефоне «102» - гэта паказчык хоць і застаецца самым высокім у рэспубліцы, але, у параўнанні з мінулым годам, знізіўся на 1,7 працэнтных пункта.

Вельмі рэзка знізілася колькасць людзей, гатовых у выпадку рэальнай пагрозы жыцця, здароўю, маёмасці гатовыя звярнуцца па дапамогу ў міліцыю - па выніках 2014 гэты паказчык склаў усяго 67,6%, тады як год таму дасягаў 80,6%.

Станам бяспекі дарожнага руху задаволена 44,1% (+ 0,4%) насельніцтва (Рэспубліка - 42,5%). Найбольшы паказчык у Сенненскім раёне (56,4%), г. Наваполацку (55,7%), Шаркаўшчынскім (53%) раёне.

Тым не менш, толькі 28% жыхароў Талачынскага, 31,8% - Шумілінскага і 32,7% - Полацкага раёнаў станоўча ацэньваюць стан дарожнай бяспекі, аднак гэта самыя нізкія паказчыкі ў вобласці.

**Алесь Прыбярэжны**

РЭХА ВАЙНЫ

# ЯК ПЕРАСЯЛЕНЦЫ ЎЛАДКОЎВАЮЦЦА Ў НАС

**Перасяленцаў з Украіны прынялі ў васьмі населеных пунктах, дзе была магчымасць даць жыллё і працу. На сённяшні дзень на Шуміліншчыне на 34 чалавек афармлены від на жыхарства, 9 пражываюць часова.**

Беларусы заўсёды славіліся сваёй гасціннасцю. Цяперашняя сітуацыя з бежанцамі з Украіны яшчэ адно таму пацвярджэнне. Як паведаміла вядучы спецыяліст групы грамадзянства і міграцыі Шумілінскага РАУС Алена Пракоф'ева, з пачаткам баявых дзеянняў у суседняй краіне ў раён адзін за адным пачалі прыбываць перасяленцы. Іх прынялі ў васьмі населеных пунктах, дзе была магчымасць даць жыллё і працу. На момант размовы з ёй у 34 чалавек быў афармлены від на жыхарства, 9 пражывалі часова. Раней прыязджалі непасрэдна з Луганска і Данецкай вобласці, цяпер - з усёй Украіны. Большасць адпраўляюцца ў шлях сем'ямі. З сабой бяруць толькі самае неабходнае. У кожнага свая гісторыя, але ўсе адзіныя ў меркаванні: у Беларусі ціха, спакойна, не чуваць стрэлаў і разрываў снарадаў, прыгожая прырода, спагадлівыя людзі.

Браты Артур і Віктар Пахіры прыехалі з жонкамі і дзецьмі з горада Рахаў Закарпацкай вобласці ў канцы траўня мінулага года. Мэтанакіравана трымалі курс на аграгарадок Амбросовічы. Віктар Міхайлавіч распавёў, што калісьці ў 90-х гадах пасля развалу СССР у пошуках лепшай долі адправіўся сюды з Латвіі. У былым калгасе «Праўда» далі працу. Але, паколькі ў дарозе згубіліся дакументы, праз нейкі час давялося вярнуцца на радзіму ў Беларусь для іх аднаўлення. Тут засталася яго першая жонка з дачкой. Яна і дала прытулак на некаторы час перасяленцам. Далей клопат пра іх ўзяло на сябе кіраўніцтва ААТ «Прыазёрны свет», далі жыллё, вылучылі матэрыяльную дапамогу ў суме 1,5 млн рублёў. Цяпер Віктар Пахір працуе жывёлаводам на комплексе. Жонка Вольга гадуе малодшага сына Цімура, якому хутка споўніцца 2 гады, 10-гадовы Назар і 8-гадовая Айвана ходзяць у мясцовую школу.

- Я ўдзячны беларусам, што так нас прынялі, - кажа Віктар Міхайлавіч. - Дзеці без праблем пайшлі ў школу 1 верасня, хоць у нас на той момант нават выпіскі не было з ранейшага месца вучобы.

Віктар Пахір чалавек творчы, захапляецца фігурнай разьбой па дрэве, прычым, цалкам прафесійна. Зрэшты, гэта захапленне смела можна назваць сямейным, і хочацца дадаць - бізнесам, так як гэта блізка і брату Артуру, і яго жонцы Святлане, і іх сыну Арсену, які з задавальненнем наведвае заняткі па разьбе ў школе. Спачатку свае вырабы яны дарылі знаёмым, родным, потым пайшлі заказы. Зараз не да гэтага - трэба абжывацца. Аднак з любімым заняткам не кінулі. Па вясне, спадзяецца Святлана, зноў займуцца. Яна цяпер працуе даяркай на мясцовым комплексе, муж - жывёлаводам. Жывуць у асобным доме, абзаводзяцца гаспадаркай.

Яшчэ адна сям'я, з якой давялося сустрэцца ў Шумілінскім РАУС падчас афармлення перасяленцамі віду на жыхарства, пераехала ў канцы лістапада з вёскі Сямёнаўка Данецкай вобласці. Пераехала, вядома, гучна сказана. Ірына і Аляксандр Скляренка хутчэй беглі ад выбухаў і куль, ратуючы дзяцей. Месца шукалі праз Інтэрнэт. Прытуліў іх зноў жа «Прыазёрны свет». Пасяліліся ў вёсцы Добея ў будынку былой крамы. Калі афармяць дакументы, пойдуць працаўладкоўвацца ў гаспадарку. Ірына раней працавала выхавальнікам у дзіцячым садзе, зараз будзе даяркай. Муж - трактарыст. Тут ужо прыжыліся. Малодшую дачку Дашу ўладкоўваюць у сад. Старэйшая Ксенія вучыцца ў 5-м класе шумілінскай школы №2.

- Зараз наш ранейшы дзіцячы сад стаіць без вокнаў, без дзвярэй, ад школы засталася толькі палова будынка. Ксюша паўгода не наведвала заняткі, вучылася дома, - апісвае падзеі нядаўняга мінулага Ірына. - Дзеці практычна не выходзілі на вуліцу. Мама засталася ў вёсцы Горлаўка. Я так і не змагла яе наведаць перад ад'ездам: увесь час бамбілі. А тут ціха, мірна, можна не турбавацца за дзяўчынак. Але да гэтага часу гэты жах сядзіць усярэдзіне. Быў такі выпадак: мужчына на вуліцы пачаў выбіваць дыван, а маіх малых перасмыкнула ад рэзкага гуку, па звычцы яны сабраліся бегчы хавацца.

На нас, хоць мы і карэнныя украінцы, але рускамоўныя, там глядзелі, як на ворагаў. Прыехалі сюды амаль без нічога. Але ў вас такія людзі! У Менску мне святар паклаў на рахунак 50 тыс. рублёў. Супрацоўнікі Шумілінскага аддзялення Беларусбанка сабралі ад сябе асабіста грошы, рэчы. Кіраўніцтва гаспадаркі паклапацілася, каб у нас быў халадзільнік, тэлевізар, ложкі, пісьмовы стол. Мясцовыя жыхары хто каструлю прынёс, хто патэльню, хто вядро, дзяцей дапамаглі апрануць. Дзякуй ім вялікі за разуменне і дабрыню! Хутка на працу пойдзем, лягчэй стане.

**Надзея Фандарэнка**
**"Витебские вести"**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ПРЭЗІДЭНСКАЯ КАМПАНІЯ

# САЛОДКАЕ СЛОВА «БАЙКОТ»

**Большасць лідараў апазіцыі зараз схіляецца да таго, што адзіным кандыдатам ад дэмсілаў на выбарах павінен быць Мікалай Статкевіч. А ў выпадку нерэгістрацыі Статкевіча апазіцыя пагражае байкотам выбараў.**

Большасць лідараў апазіцыі зараз схіляецца да таго, што адзіным кандыдатам ад дэмсілаў на выбарах павінен быць Мікалай Статкевіч. Тое, што ён знаходзіцца ў вязніцы, па іх меркаванні, не павінна перашкаджаць яму быць кандыдатам на пасаду прэзідэнта Беларусі. І размова ідзе не пра сімвалічнае кандыдацтва, з падрыхтаваным дублёрам Статкевіча.

Але па існуючых беларускіх законах наўрад ці гэта магчыма. Кандыдат на прэзідэнта павінен не толькі стварыць ініцыятыўную групу (з гэтым якраз праблемаў не будзе), але і асабіста зарэгістраваць групу ў ЦВК для збору подпісаў. Да таго ж, ён павінен прадставіць і пэўны пакет дакументаў, напрыклад, падатковую дэкларацыю. Як Статкевіч можа сабраць гэтыя дакументы і падаць іх у ЦВК — не вядома.

Увесь разлік грунтуецца на тым, што Статкевіча павінны вызваліць. Як мяркуе паплечнік Статкевіча Сяргей Скрабец, стварэнне ініцыятыўнай групы можаісці пад лозунгам: «Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, патрабуем вызвалення палітычных зняволеных Статкевіча, Аліневіча, Дзядка, Васькові́ча, Пракапеню, Рубцова і далучаемся да ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь». І суправаджацца шырокай грамадскай кампаніяй «Свабоду Статкевічу і ўсім палітвязням».

Экс-кандыдат у прэзідэнты, лідар «Еўрапейскай Беларусі» Андрэй Саннікаў падтрымаў Скрабца. Ён заявіў: «Найбольш разумным на сёння з'яўляецца тая прапанова, якую агучыў Скрабец: стварыць ініцыятыўную групу па вылучэнні Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты, патрабаваць яго рэгістрацыі і адначасова вызвалення яго і ўсіх астатніх палітвязняў». Прычым Саннікаў прапануе вылучаць Статкевіча ўсур'ёз: «Толькі без адгаворак, якіхсьці запасных варыянтаў і дублёраў».

Лічыць такі варыянт рэальным і кіраўнік зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч: «Вылучэнне Мікалая Статкевіча адзіным кандыдатам — самая прымальная, зразумелая, ясная і лагічная стратэгіязтых,якіямогуцьбыць… Я ўпэўнены, што калі дэмакраты вылучаць Мікалая Статкевіча ў якасці адзінага кандыдата, то ён выйдзе на волю ўжо ў бліжэйшы час. Зарэгіструюць яго ў якасці кандыдата ці не — гэта ўжо больш складанае пытанне. Але ўлады вымушаны будуць вызваліць Статкевіча і іншых палітвязняў».

Безумоўна, вылучэнне Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты як форма змагання за ягоную свабоду — гэта вельмі моцны крок. Але нават калі ўлада вызваліць Статкевіча і зарэгіструе ініцыятыўную групу, у яго будзе не знятая на той час судзімасць, а «такіх не бяруць у прэзідэнты».

У выпадку нерэгістрацыі Статкевіча апазіцыя пагражае байкотам выбараў. «Павінна быць прынцыповая лінія: альбо Статкевіч становіцца адзіным кандыдатам і вылучаецца патрабаванне аб яго вызваленні, рэабілітацыі і рэгістрацыі, альбо байкот», — мяркуе Саннікаў. «Калі Статкевіча не зарэгіструюць, то ўдзельнічаць у гэтых выбарах нельга. У сітуацыі наяўнасці ў Беларусі палітвязняў адзінай формай удзелу ў выбарчай кампаніі можа быць толькі байкот», — кажа Дашкевіч.

Ці ёсць байкот выйсцем для апазіцыі? Палітолаг Аляксандр Класкоўскі з гэтым не згодны катэгарычна: «Найперш, пра байкот кажуць тыя сілы і структуры, якія не маюць вялікага рэальнага патэнцыялу і актыву. Хаця тут усё адносна: увогуле апазіцыя зараз, мякка кажучы, не ў лепшай форме. Але структуры, у якіх ёсць пэўная сетка актывістаў: напрыклад, кампанія «Гавары праўду!», Рух «За Свабоду!», якія, пры тым, што ўсе салідарныя ў тым, што выбараў у Беларусі няма, абмяркоўваюць удзел у кампаніі, як магчымасць кантакту з электаратам і прасоўванне сваіх ідэй».

«Іншыя структуры становяцца на максімалісцкія пазіцыі. Гэта гучыць прыгожа, але іншым разам складаецца ўражанне, што імя Статкевіча, ягоны статус палітвязня — гэта проста прыкрыццё, каб прыгожа выйсці з гульні», — наракае палітолаг.

Па словах Класкоўскага, палітолагі напісалі ўжо стосы працаў па тым, што байкот у Беларусі немагчымы. «Для сапраўднага байкоту трэба мець яшчэ больш ўплыў на масы, чым дзеля ўдзелу ў выбарах, каб паралізаваць выбарчы працэс. Аднак у апазіцыі зараз не тыя магчымасці і не той уплыў, не той аўтарытэт», — заўважае ён.

Няма ніводнага прыкладу, калі байкотам абвалілі дыктатуру. «Затое ёсць прыклады ашаламляльных выбараў, калі апазіцыя ўступала ў барацьбу на абсалютна не роўных умовах, і раптам пад ціскам форс-мажорных абставінаў рэжым абвальваўся. І сёння якраз такая сітуацыя: і ў плане фінансавым, і знешнепалітычным, калі ў маленькай Беларусі пад уплывам магутных знешніх чыннікаў сітуацыя можа змяніцца самым непрадказальным чынам за некалькі месяцаў. І, магчыма, больш мудрым ёсць прынцып Напалеона: «Увяжамся ў бойку, а там будзе бачна». Гэты ж прынцып, дарэчы, скарыстоўваў і Уладзімір Ленін, які з купкай бальшавікоў перакуліў магутны царскі рэжым», — лічыць Класкоўскі.

**Сяргей Пульша**
**"Новы час"**




НАШЫ СУСЕДЗІ

# МЫ СИЛЬНЕЕ, ПОТОМУ ЧТО С НАМИ ПРАВДА

**«Когда враг увидел, что мирный аншлюс Украины в Таможенный союз захлебнулся, он решил танками и «Градами» расчленить Украину», — заявил президент страны Петр Порошенко вечером 20 февраля на площади Независимости в Киеве на церемонии памяти погибших год назад активистов Евромайдана.**

«Этой авантюре также не удалось стать реальностью. Украинская армия при всенародной волонтерской поддержке остановила врага на дальневосточных рубежах. Рожденные не для войны, украинцы, мирные украинцы, потому что мы мирный народ, взяли в руки оружие и остановили хорошо вышколенную армию — одну из самых мощных в мире и на континенте», — приводит слова Порошенко пресс-служба президента.

Он подчеркнул, что на Майдане боролись не только и не столько с марионеточным режимом Януковича, сколько за европейское будущее Украины. По словам Порошенко, именно подвиг Небесной сотни вдохновил сотни тысяч украинцев на борьбу с российской агрессией.

«Нам противостоит мощный враг, значительно более многочисленный, чем мы, и, к сожалению, гораздо лучше вооруженный. Планы напасть на нас он вынашивал годами. Он готовил именно для этого свои вооруженные силы и формировал у нас внутри страны «пятую колонну». Но мы все равно сильнее, потому что с нами правда, и мы сильнее, потому что с нами бог. Для нас это война за свою землю, за нашу землю — война справедливая, а для противника — нет! И это признано всем миром, потому что весь мир сейчас солидарен с Украиной», — сказал президент.

Глава государства подчеркнул необходимость сохранения единства.

«Мы это продемонстрировали на фронте и сейчас отнюдь не допустим внутреннего фронта, над открытием которого очень упорно работают спецслужбы соседнего государства, сея страх, панику, неверие в наши силы и недоверие украинцев друг к другу. Мы сломаем этот сценарий и победим, как побеждали до сих пор», — заявил Порошенко.

Порошенко настаивает на новых санкциях против России

В случае дальнейшего нарушения боевиками минских договоренностей от 12 февраля ЕС и США должны ввести новые санкции против России, заявил Петр Порошенко 20 февраля в телефонном разговоре с вице-президентом США Джозефом Байденом.

По сообщению пресс-службы украинского руководителя, стороны «обсудили ситуацию, которая сложилась из-за многочисленных нарушений боевиками на Донбассе режима прекращения огня вопреки минским договоренностям», а также «необходимость скоординировать позицию и дальнейшие действия США, ЕС и Украины».

«При этом Петр Порошенко настоял, что в случае, если ситуация не улучшится, США и ЕС должны ввести дальнейшие санкции против России и принять меры для усиления обороноспособности Украины», — отмечается в пресс-релизе.

Порошенко и Байден затронули вопросы подготовки и координации возможного размещения миротворческой миссии на Донбассе. Президент Украины также подчеркнул, что все военнопленные и незаконно задержанные граждане страны должны быть освобождены согласно договоренностям.

Это уже второй за последние три дня разговор Порошенко и Байдена. В первом украинский руководитель заявил о необходимости немедленных действий для «остановки срыва минских договоренностей».

**"Белапан"**

ПАДАТКОВАЯ ПАЛІТЫКА

# НАЛОГ НА ДОЛГИ

**Платить налог теперь нужно и с денег, которые взяты в долг у соседа.**

Платить подоходный налог с 1 января нужно не только с зарплаты, но и с денег, которые взяты в долг. Например, у соседа или заграничного друга, пишет«Вечерний Гродно».

Новшество затронет в первую очередь людей, которые при заполнении декларации о доходах и имуществе объяснят, что квартиру или машину купили за взятые в долг деньги. При этом долговая расписка может быть оформлена хоть пять лет назад.

К таким же кредитам и займам отнесли доходы от иностранных организаций и предпринимателей. Как сообщили в ИМНС по Гродненской области, исключением может быть ситуация, когда в долг дал близкий родственник, свояк, опекун, попечитель и подопечный. Кстати, после возвращения долга налог можно вернуть. Для этого нужно написать заявление и принести налоговому инспектору документ, который подтвердит возврат займа. Новый договор займа для возврата текущего долга таким документом не считается.

С 1 января налоговики не будут доказывать, работал предприниматель или отдыхал, чтобы привлечь его к уплате налогов. Сделать это помогут объявления в газете.

С этого года в Налоговом кодексе появилось понятие «осуществление деятельности плательщика». К примеру, если предприниматель опубликовал объявление в газете и интернете об оказании услуг или принял заказ, то считается, что в этом месяце он работал и обязан заплатить единый налог.

Ставки единого налога для ИП в Гродненской области выросли в среднем на 15–20 процентов. Такое решение принял областной «совет депутатов» 20 января. Как сообщили в ИМНС Гродненскойобласти,добавлены или откорректированы некоторые виды деятельности, а также установлены новые размеры ставок единого налога. Например, гродненцы, которые торгуют продуктами и одеждой на рынках, будут платить соответственно 730 и 700 тысяч вместо 600 тысяч рублей в месяц.

Пока еще используются старые ставки. Новые будут действовать с момента официального опубликования решения облсовета на Национальном правовом интернет-портале.

Следят за валютой

Налоговая инспекция теперь знает о том, сколько валюты покупает каждый белорус. С 1 января отменена банковская тайна, и эти данные попадают в налоговые базы данных.

**http://www.charter97.org**

НАША РАЗВІЦЦЁ

# БЕЛАРУСЬ ПОЛЗЕТ В ТУПИК

**На протяжении последних шести лет социологи отмечают спрос на кардинальные перемены, которые «устойчиво предъявляет большинство белорусов». Но каких перемен требует общество?**

В апреле 2013 года на вопрос НИСЭПИ: «Какие реформы, на Ваш взгляд, А.Лукашенко должен провести в течение следующих 12 месяцев?» — самыми популярными оказались следующие варианты ответов: «Повысить минимальную зарплату» — 61,7% и «Повысить пенсии» — 41,8%».

Ни власть, ни народ не хотят реформ в классическом понимании. Поэтому слабая оппозиция зря обольщается, твердя, что большинство в Беларуси — за перемены.

Но перед нами встает неразрешимый вопрос: кто и как может инициировать реформы, которых не хочет ни власть, ни народ?

«Свободные новости плюс» поинтересовались мнением эксперта НИСЭПИ Сергея Николюка.

***— Руководство Беларуси больше не в состоянии выполнять социальный контракт. В силу этого власть окончательно переходит от ставки на модернизацию к идее мобилизации (дисциплина, борьба с коррупцией и тунеядцами, замораживание цен), де-факто переформулировав его: вместо «лояльность в обмен на рост доходов» белорусам предлагается «лояльность в обмен на выживание». В чем суть нового контракта?***

— За последние 15 лет темпы роста доходов населения являлись двузначными. Этот период в нашей новейшей истории закончился, но население еще не осознало этот факт. Мало ли проблем возникает: мы пережили 2009 год, 2011-й, о которых уже забыли. Однако на самом деле ситуация изменилась кардинально: период устойчивого роста как таковой закончился. Ресурс белорусской модели исчерпан. Но это не главная проблема. Исчерпан ресурс культуры, на которую модель опирается.

С моей точки зрения, населению понадобится минимум два года на осознание того, что тренд развития принципиально изменился, что впереди будет только хуже.

Прежний контракт, когда власть обеспечивала белорусам двузначный рост доходов, закончился. И вертикали больше нечего предложить обществу, кроме «стабильности и спокойствия».

В новогоднем обращении Лукашенко откровенно сказал: «Главная ценность, за которую мы должны благодарить судьбу, — это мир. Мир в наших семьях, в нашей стране, в отношениях между людьми… Нет у человека ничего дороже жизни. И нет права более важного, чем право на жизнь».

Четвертое Всебелорусское собрание в рамках прежнего социального контракта наметило новые рубежи: к 2015 году средняя зарплата должна была приблизиться к тысячи долларов. Однако об этом вспоминать сегодня не принято. Впереди, безусловно, нас ждет пятое Всебелорусское, но никаких цифр грядущего роста на пятилетку мы не услышим.

Как пел Высоцкий, «скажи еще спасибо, что живой…»

***— «Мир и стабильность», которые Лукашенко понесет в 2015 году гражданам, безусловно важны. Однако белорус привык думать своим карманом — этот тренд поддерживался несколько последних лет. Заменит ли «мир и стабильность» экономическое благосостояние населения?***

— О каких временных рамках идет речь?

Если не произойдет ничего сверхординарного (а сверхординарное может произойти в России, где предпримут такие действия, последствия которых предсказать просто невозможно) до конца года, я думаю, в рамках нового контракта «лояльность в обмен на выживание» Лукашенко все свои задачи в 2015-м решит. Приближающиеся выборы не станут событием, которое изменит установившиеся тренды.

В определенной степени предыдущая избирательная кампания стала событием: с конца 2007-го вплоть до приснопамятного 19 декабря в стране осуществлялась политика либерализации.

Сейчас никаких новаций, если не считать замены самого контракта, не ожидается; в рамках этого контракта власть проведет выборы. Никаких сдвигов не произойдет при условии, что мы вынесем за скобки российский фактор.

***— Стране нужны реформы, которые власть не хочет проводить. Почему? Ведь без перемен невозможно удовлетворить потребности населения.***

— Главная задача власти — не удовлетворять потребности населения, а оставаться властью.

Прежде чем ставить вопрос о реформах, нужно ответить на другой вопрос: а что понимать под ними? Реформы — это деятельность по расширению пространства свободы. Если проводить такие перемены, они, безусловно, убьют эту власть гораздо раньше, чем доведенное до отчаяния население окажется способно на политические действия.

Когда заходит речь о реформировании, иногда чиновники говорят очень правильные и глубокие вещи. Несколько месяцев назад я услышал, что необходимо отделить собственность от управления. Белорусская система выстроена по принципу унитарного предприятия, т.е. с одним владельцем. Имя владельца УП «Беларусь» известно. Но проблема в том, что оно состоит из встроенных в него УП. На идеологическом совещания весной 2013 года Лукашенко заявил вертикали: «Вы там маленькие «президенты» на своих участках, у вас достаточно широкие полномочия и функции, стиль работы примерно такой же…»

Нам кажется, что у нас в стране один президент, на самом деле каждый руководитель у нас — президент на своем посту. Страна построена по принципу поместий, вложенных друг в друга. Каждый начальник — помещик: поместьем губернатора является область, директора школы — школа и т.д.

В УП власть от собственности и не должна быть отделана. Отсюда простой вопрос к реформаторам: вы собираетесь проводить изменения внутри УП или реформировать УП как таковое? Проводить серьезные реформы внутри бесполезно, потому что в нем существуют рамки дозволенного, за которые выйти невозможно. Если вы собираетесь реформировать само УП как принцип организации, первый вопрос: а с владельцем реформы согласованы? Лично я не слышал ни одного заявления по поводу готовности к такого рода преобразованиям. Более того, почти в каждом выступлении он доказывает: этот принцип незыблем.

Так о каких реформах мы говорим?

***— Ни власть, ни народ не хотят ничего делать для перемен, но жаждут лучшей жизни. Беларусь зашла в тупик?***

— Состояние страны я характеризую одной короткой фразой: «Беларусь выпадает из тележки».

Главное противоречие нашего времени, как объясняли мне в свое время преподаватели марксизма-ленинизма, заключается в противостоянии между системой капитализма и системой социализма. С падением последнего исчезло и противоречие.

Основное же противоречие нашего времени состоит между миром динамики и миром статики. Главным источником динамики с начала Нового времени выступает западно-христианская цивилизация. Способность динамично развиваться сегодня демонстрируют страны рисовой культуры. В аутсайдерах — исламский мир. Он неспособен вписаться в современность. Отсюда его агрессивность.

Западный мир вышел на такой уровень сложности (социальный, политический, экономический, технический), который уже не способна повторять российская цивилизация. А мы являемся ее частью.

На цивилизационной шкале российская цивилизация находится ближе к исламской, чем западно-христианской. Вспышка агрессии, которую мы сегодня наблюдаем по отношению к Украине, — попытка отвлечь общество от внутренних проблем. То же самое происходит с исламским миром. Это агония культуры, исчерпавшей ресурс развития.

Мы — часть системы, у которой нет будущего, но есть шанс стать частью западно-христианской цивилизации. Этот путь сейчас активно осваивают осколки бывшей восточно-христианской цивилизации (Греция, Румыния, Болгария и т.д.). Процесс смены цивилизационной идентичности чрезвычайно сложен. Для того, чтобы в этом убедится, достаточно взглянуть на Грецию.

Белорусская модель — в полном тупике. У тупика, как я уже отметил, культурное, т.е. цивилизационное измерение.

С одной стороны, Лукашенко считает Беларусь частью Европы («мы европейцы»). С другой на претензии Запада отвечает: «Психология нашего народа такова, что нельзя заставить его перепрыгнуть через несколько этапов развития и оказаться «в счастливом демократическом будущем». Логика развития всех государств мира говорит о необходимости спокойного, эволюционного, поступательного развития».

Замечательные слова.

Но Лукашенко у власти уже 20 лет. Пора бы и отчитаться, сколько шагов белорусскому народу удалось сделать в «направлении демократии».

**Владимир Журавок**
**«Свободные новости плюс»**

ПЕРЫЯД ТУРБУЛЕНТНАСЦІ

# РАСПАД «САЦЫЯЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВЫ»

**Калі я ў апошні дзень мінулага году напісаў блог пад назвай «Сардэчна запрашаем у нестабільнасьць», які быў перадрукаваны іншымі інтэрнэт-парталамі, то «Советская Белоруссия» абрынулася на мяне з рэзкай крытыкай аж у двух матэрыялах. Маўляў, усё гэта лухта, аўтар скажае сьветлае аблічча беларускай сацыяльнай мадэлі.**

Прайшло няшмат часу. У панядзелак 23 лютага ў перадачы «Форум» тэлеканалу «Беларусь 1» першы віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі адзначыў, што эканоміка Беларусі ўступае ў пэрыяд турбулентнасьці.

Вось урад распрацаваў праграму сваёй дзейнасьці, якая прадстаўлена 25 лютага Палаце прадстаўнікоў і зацьверджана дэпутатамі. Урадоўцы прапануюць тры сцэнары разьвіцьця падзеяў у эканоміцы ў залежнасьці ад усясьветных цэнаў на нафту і абменнага курсу расейскага рубля. У такіх умовах ні пра якую стабільнасьць і гаварыць не выпадае.

Праграма практычна ня ўтрымлівае канкрэтных лічбавых паказчыкаў. Увогуле, называць прапанаваны дакумэнт праграмай цяжка. Гэта набор добрых пажаданьняў, і ня больш за тое. Але цяжка чакаць ад ураду нечага іншага. Бо ён не вызначае эканамічнай палітыкі, гэтая функцыя застаецца за Лукашэнкам. А той заявіў на нядаўняй прэсавай канфэрэнцыі, што пакуль ён займае пасаду прэзыдэнта, то ніякіх рэформаў у краіне ня будзе. Кола замкнулася.

Варта зьвярнуць увагу на такі нюанс. Ідэалягічны канструкт пра Беларусь як сацыяльную дзяржаву — адно з галоўных прапагандысцкіх клішэ. Але па меры скарачэньня рэсурсаў, пагаршэньня эканамічнага становішча элемэнты сацыяльнасьці паступова зьнікаюць. І ў адукацыі, і ў ахове здароўя доля платных паслугаў толькі расьце. Калі параўноўваць з эўрапейскімі суседзямі, то, фактычна, у Беларусі да праяваў «сацыяльнай дзяржавы» можна аднесьці толькі нізкія камунальныя тарыфы, невысокія кошты грамадзкага транспарту і адносна невялікі ўзровень беспрацоўя, абумоўлены тым, што дзяржпрадпрыемствам было забаронена звальняць супрацоўнікаў. То бок дзяржаўны сэктар выконваў ня толькі эканамічную, але і сацыяльную функцыю, забясьпечваючы насельніцтва працай.

Але факты сьведчаць пра тое, што гэтая апошняя функцыя дзяржаўных прадпрыемстваў ліквідуецца. Не да жыру. Паводле Deutsche Welle, пачалося значнае скарачэньне штатаў на флягманах беларускай прамысловасьці. За дзевяць месяцаў мінулага году колькасьць работнікаў МАЗа зьменшылася на 10%, гэта 2000 чалавек. З «Гродна-Азоту» звольнілі 2,4 тысячы работнікаў — пятую частку ўсіх занятых. На 15% — на 1 тысячу працоўных — скараціўся пэрсанал «Магілёўхімвалакна».

Масавае беспрацоўе для Беларусі — новая зьява. Што варта было б рабіць уладам у такой няпростай сытуацыі? Найперш, не пагаршаць, не абвастраць праблему.

Насамрэч жа ўсё робіцца з дакладнасьцю да наадварот. Напрыклад, кампанія барацьбы з «дармаедамі» («тунеядцами») магла б мець хоць нейкі эканамічны сэнс, калі б у краіне быў дэфіцыт рабочых рук. Калі ж усьлед за прыватным сэктарам пачалі скарачаць работнікаў і дзяржпрадпрыемствы, спроба прымусіць працаваць незанятае насельніцтва ператвараецца ў абсурд.

Ці вось барацьба ўлады з індывідуальнымі прадпрымальнікамі (ІП). Гэтыя людзі ня толькі забясьпечваюць сябе працай, але трымаюць і наймаюць работнікаў. А прэзыдэнцкі ўказ № 222 фактычна пазбаўляе іх магчымасьці працаваць, разбурае іхні бізнэс. У выніку ІП папоўняць шэрагі беспрацоўных. Гаворка ідзе пра дзясяткі тысяч людзей.

Каму і навошта гэта трэба? Ствараецца ўражаньне, што ўлады штучна, уласнымі рукамі штурхаюць краіну да сацыяльнай нестабільнасьці.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.02.2015 у 18.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.